© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024


# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ Б.Г.К.Т.

№ 37 (550) ГОД XI БЕЛАСТОК, 11 ВЕРАСНЯ 1966 г. ЦАНА 60 ГР.


**У НУМАРЫ**



## Водар зямлі

Гэта ўжо гісторыя. І толькі цяперашнія школьнікі хіба не зусім задаволены, бо ў іх памяці павінна знайсціся трывалае месца для даты: **6 верасня 1944 года — абвяшчэнне дэкрэта Польскага камітэта нацыянальнага асвабаджэння аб зямельнай рэформе.** У гісторыі вёскі ад 1864 года, ад часу адмены паншчыны, хіба не было важнейшай даты. Дэкрэт аб зямельнай рэформе ліквідаваў землі памешчыкаў. У маёй памяці памешчык неяк заўсёды спалучаецца з панам Яцыноцкім, які па-суседску з нашай вёскай меў маёнтак Янцэвічы. Памятаю яго ў белым фрэнчы. Прыязджаў лёгкай брычкай у два адкормленыя конікі: адзін белы, а другі сівы. Спыняўся ля вясковай крамы, крамачнік гнуўся аж да зямлі і штораз паўтараў: «Што ясне пан прыкажа?»

Мы тады хаваліся за хату і з-за яе вуглаў узіраліся на фурмана. Не дай Бог было наблізіцца на адлегласць яго доўгай пугі! Летам і пад восень пан Яцыноўскі прыязджаў за рабочымі. З вышыні сваёй брычкі пугай паказваў: «Ты, ты, ты...» Выбіраў наймацнейшых. Для жанчын да жыта ці да бульбы плаціў па 50—60 грошы за днёўку, мужчынам з касой ці з цэпам — залатоўку, паўтары.

Многа пазней я даведаўся, што наш пан Яцыноўскі быў ледзь невялічкай плоткай. Яго маёнтак налічваў не многа больш за 100 гектараў. Грубыя рыбы памешчыцкага гатунку мелі маёнткі, плошчу якіх мералася тысячамі гектараў. Звыш трохтысячныя маёнткі знаходзіліся ў руках 2 тысяч памешчыкаў. Амаль палавіна зямлі (46%) знаходзілася пад маёнткамі, якіх плошча перавышала 100 гектараў. Хлебаробніцкія гаспадаркі да 5-ці га займалі ледзь восьмую долю зямельных угоддзяў, хаця гэтых гаспадарак было найбольш.

Доўгія гады вялася барацьба за падзел памешчыцкай зямлі. Быў добры прыклад. У суседняй Савецкай Расіі памешчыкі даўно пайшлі пасвіць кароў. Хіба таму ўжо першы канстытуцыйны Сейм Польскай Дзяржавы ў 1919 годзе прыняў пастанову аб аграрнай рэформе. У сеймавых архівах можна пераканацца, што на працягу цэлага міжваеннага дваццацігоддзя кожны новы Сейм займаўся пытаннем аграрнай рэформы. Пастаянна абмяркоўвалі, дапаўнялі і змянялі першапачатковую пастанову з 1919 года. Урэшце з дабрадзействаў гэтай рэформы маглі скарыстаць толькі багатыя, бо за зямлю неабходна было плаціць. Як падлічылі ў Інстытуце сельскагаспадарчай эканомікі, кожны гектар зямлі з даваеннай рэформы цягнуў за сабой доўг у звыш 1000 даваенных злотых (8 — 10 кароў). ПКВН таксама не даваў зямлі без грошай. Але была гэта хутчэй сімвалічная аплата. Раўнялася яна аднагадоваму ўраджаю з надзеленай зямлі і раскладалася на 10—20 год.

На аснове дэкрэта ад 6 верасня 1944 года дзяржава пераняла ад памешчыкаў і юнкраў ды раздала бедным сялянам 19.988 маёнткаў, плошча якіх склала каля 8 мільёнаў гектараў.

Цяпер цяжка ўявіць і зразумець радасць абдараваных зямлёй. А яна была вялікая, праўдзівая, вось як словы даўнейшага парабка Бучка з Жэшаўскага павета: «Мне 75 год, — пісаў ён у лістападзе 1944 года, — 70 год працую ўжо ў маёнтку Старамесце... цэлае жыццё спаў я ў стайні. Ніколі радасць не з'яўлялася ў маім жыцці і пастаянна марыў я, каб мець хаця кавалак поля... На аснове рашэння фальварчнай камісіі ўпаўнаважаны ад ПКВН выдзеліў мне адзін га зямлі. Атрымаў я таксама карову, 20 цэнтнераў буракоў, 2 цэнтнеры пшаніцы і 4 цэнтнеры жыта. Урэшце маю ўласны стол, крэсла і ложак. На 75-тым годзе жыцця збыліся мае мары — я стаў гаспадаром».

Дэкрэт ПКВН назначаў кароткі тэрмін: **да 20 снежня 1944 года падзел памешчыцкай зямлі на асвабоджанай ад акупанта тэрыторыі павінен быць закончаны.** Разгарнулася заўзятая барацьба. З аднаго боку Польская рабочая партыя, а з другога — цэлы лагер польскай буржуазіі, з якога ў 1945 годзе на перадавое месца выбіўся Станіслаў Мікалайчык са сваёй партыяй — Польскае стронніцтва людовае. Быў ён другім намеснікам прэм'ер-міністра і міністрам сельскай гаспадаркі і зямельных рэформ. Як не дзіўна, але склалася такое становішча, што найбольш заўзяты вораг зямельнай рэформы, абвешчанай дэкрэтам ПКВН, быў адказны за яе ажыццяўленне.

У паветах і ваяводствах дзейнічалі зямельныя ўправы. Аселі ў іх былыя панкі і іх прыхільнікі. Зямельныя ўправы мелі пераняць зямлю ад памешчыкаў або іх упаўнаважаных і раздзяліць яе сярод патрабуючых. Тым часам кіраўнік ваяводскай зямельнай управы ў Беластоку, Тэофіль Рэўкоўскі адкры-

(Працяг на стар. 5)



*Вёска Дабрынёўка ў Беластоцкім павеце была першай у Польшчы, дзе ажыццявіўся дэкрэт ПКВН аб зямельнай рэформе. Гэтую знамянальную падзею насельніцтва Дабрынёўкі ў 1959 годзе адзначыла помнікам, які стаіць пасярэдзіне вёскі.*

*фота: В. Рудчык*



## ЛЕС

**Па таямнічасць прахалоду,
Па ціхі сум над галавой
У лес, бы ў казку, я ўваходжу
І казкай дыхаю жывой.
Рассуну колкі куст ажыны
І праз алешнік малады
Пайду за вывадкам важыным
Па ліст крамяны пад дубы.
Чачотку выб'е недзе дзяцел
І з цёмнай засені густой,
Нібыта дзверы ў новай хаце,
Расцяжна рыпне сухастой.
А на куп'і ляжаць суніцы.
І паміж імі у траве
Бялее шорсткая сівіца,
Як сівізна на галаве.**

**Цябе, мой лес глыбокадумны,
Хачу увесь запомніць я:
З паўдзённым сонцам,
З ветрам шумным
І з тым кутком глухім і тлумным,
Дзе яд нарошчвае змяя.**

**Уладзімір Паўлаў**

**У СПРАВЕ ДАСЛЕДВАННЯ НАРОДНАГА БЫТУ**

## Мая прапанова

Вядомы французскі этнограф Леві-Страус у адным месцы сваёй кніжкі выдадзенай у нас пад загалоўкам „Smutek tropików"снуе цікавыя развaжанні на тэму этнаграфічных доследаў. Маюць яны (развaжанні) прыблізна такі характар:

Леві вандруе па экзатычных краінах у пошуках аўтэнтычнай старыны, «несапсутых» еўрапейскай цывілізацыяй чыстых форм першабытнай народнай культуры. Леві прысвячае гэтаму вялікую частку сваіх жыццёвых сіл, культуры такой аднак не знаходзіць. Ён зайздросціць даўнім спадарожнікам і адкрывальнікам кантынентаў, якія мелі магчымасць аглядаць экзатычныя цывілізацыі ў першабытнай іх форме, якіх аднак найменш цікавіла менавіта этнаграфія. Леві задумоўваецца: будучыя вучоныя будуць мне гэтак зайздросціць таго, што я бачыў і будуць злавацца за тое, што не запісаў, не захаваў для будучыні найбольш прыдатных з навуковага пункту гледжання рэчаў. Што аднак для будучыні акажацца менавіта найбольш прыдатным, найважнейшым?

Рэфлексію Леві-Страуса можна ў пэўнай меры прымяніць і да нашай працы ў галіне даследвання народнага быту. Вялікімі намаганнямі, імкненнямі (і як найбольш слушна) да зберагання этнаграфічных цэннасцей: старых прыладаў працы, вопраткі, фальклору, апісання абрадаў і г.д., забываючы (як найбольш няслушна), што простыя апі-

(Працяг на стар. 4)



Абедаем. Фота: Ул. Паўлючук

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ДЭ ГОЛЬ АБ В'ЕТНАМЕ

Прэзідэнт Французскай Рэспублікі генерал дэ Голь выбраўся ў чарговае падарожжа па краінах Афрыкі, Азіі і Акеаніі. Гэтае падарожжа вакол свету, якое мае даўжыню 43 тысячы кіламетраў, прыцягвае ўвагу цэлага свету. З вялікім зацікаўленнем свет сачыў пабыўку дэ Голя ў Камбоджы. 1 верасня г.г. прэзідэнт дэ Голь выступіў з прамоваю ў сталіцы Камбоджы. Заходнія каментатары звяртаюць увагу на тры асноўныя тэзісы прамовы: 1) дэ Голь выразна абсудзіў амерыканскую палітыку ў В'етнаме, сцвярджаючы, што «няма найменшай надзеі на тое, каб народы Азіі падпарадкаваліся праву, якое дыктуе ім чужаземец, які прыбыў з другога боку Ціхага акіяна»,

2) нанёс удар амерыканскай прапагандзе, якая безупынна гаворыць, што нібы амерыканцы ваююць у В'етнаме па просьбе саміх в'етнамцаў. «Мы былі сведкамі, — гаварыў дэ Голь, — як Злучаныя Штаты ўладзіліся палітычна і вайскова ў Паўднёвым В'етнаме, а тым самым разгарнулася нанава вайна ў форме нацыянальнага руху апору».

(Ужываючы зварот «нацыянальны рух апору» дэ Голь перакрэслівае тэзісы амерыканскай прапаганды, аб нібыта «агрэсіі» Паўночнага В'етнама супроць паўднёвай часткі краіны). 3) Дэ Голь заявіў, што ён упэўнены ў тым, што рэзігнацыя Злучаных Штатаў у В'етнаме, «калі здаецца, што не прыносіць яна ніякай карысці і не мае ніякага абгрунтавання», не параніла б годнасці ЗША, не была б супярэчна ідэалам і не выклікала б ніякай страты ў іх справах». Наадварот, дэ Голь мяркуе, што рэзігнацыя Злучаных Штатаў з в'етнамскага скандалу давяла б да ўзросту прэстыжу Амерыкі і да ўмацавання міру.

### РЭЗІГНАЦЫЯ У ТАНА

Генеральны Сакратар ААН У ТАН заявіў, што ў сувязі з заканчэннем тэрміну паўнамоцтва і новымі выбарамі Генеральнага Сакратара ААН, рэзігнуе са сваёй функцыі. За прычыну такой пастановы У Тан падаў нявырашаны в'етнамскі канфлікт. На яго намаганні, што справы ў В'етнаме трэба вырашыць дапускаючы да перагавораў усе зацікаўленыя групіроўкі ў В'етнаме і што для гэтага трэба зменшыць ваенныя дзеянні ў В'етнаме, амерыканскія кіраўнікі адказалі — **не.**

### ПАЛІТЫКА Ў СПОРЦЕ

ФРГ уносіла пратэст супроць удзелу спартсменаў ГДР у спаборніцтвах Еўропы ў Будапешце. Гэта не ўдалося. У сувязі з тым бонскія ўлады і так пастанавілі не паказваць у час тэлевізійных перадач усходнегерманскіх спартсменаў. Калі выігрываў спартсмен ГДР і пачынаўся гімн ГДР, у Заходняй Германіі перарывалі перадачу, апраўдоўваючы гэта тэхнічнымі хібамі.

(АК)

## БССР

### КІРМАШ

У Мінску адбыўся, так званы, беларуска-прыбалтыйскі кірмаш, на які з'ехалася больш тысячы прадстаўнікоў гандлёвых арганізацый Масквы, Ленінграда і многіх братніх рэспублік СССР. Вартасць прапанаваных на кірмашы тавараў перавысіла 106 мільёнаў рублёў.

### ІТАЛЬЯНЦЫ

Мінск наведала дэлегацыя сакратароў федэрацый Італьянскай Камуністычнай партыі на чале з Мікельанджэла Русо. Дэлегацыя сустрэлася з кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі.

### ОРДЭН

Мінскі аўтамабільны завод узнагароджаны ордэнам Леніна. У будучыні будуць будаваць тут машыны здольныя да перавозу 65, 110, 160, 220 тон грузу! Гербам завода з'яўляецца сілуэт белавежскага зубра.

### СКАНСЭН

«Літаратура і Мастацтва» друкуе пісьмо групы выдатных дзеячаў беларускай культуры, у якім падымаюць яны справу арганізацыі беларускага этнаграфічнага музея пад голым небам. Пішуць яны:

«...трэба ўсяляк клапаціцца аб тым, каб наша гісторыя не загінула, не знікла бясследна. І адной з дзейсных форм яе ўвекавечання быў бы этнаграфічны музей пад адкрытым небам... што ўяўляў бы сабою цэлую вёску з рознага тыпу дамоў, гаспадарчых і іншых будынкаў, сцягнутых з усіх куткоў Беларусі, дзе была б дакладна ўзноўлена абстаноўка, у якой жылі нашы людзі на працягу некалькіх стагоддзяў»...

... «Стварэнне Беларускага этнаграфічнага музея пад голым небам — важная дзяржаўная справа. І яе трэба вырашыць неадкладна», — сцвярджаюць аўтары пісьма.

### КІНАУНІВЕРСІТЭТ

Пры Мінскім Палацы прафсаюзаў існуе першы ў Беларусі кінаўніверсітэт. Слухачы гэтага ўніверсітэта знаёмяцца з кінамастацтвам СССР, Усходняй Еўропы, Італіі, Францыі, Англіі і Амерыкі.

### ЯПОНЦЫ

У Мінску пабывала дэлегацыя Сацыялістычнай партыі Японіі.

### ГОНКА

Адбылася веласіпедная гонка на прыз газеты «Физкультурник Белоруссии». Прымалі ў ёй удзел зборныя каманды ўсіх абласцей і дзве каманды Мінска. За сем дзён спартсмены пераадолелі 850 кіламетраў трасы, падзеленай на 7 этапаў.

### З АФРЫКІ

Беларусь наведалі журналісты з афрыканскіх краін — Ганы, Танзаніі, Кеніі, Замбіі, Нігерыі, Занзібара, Уганды і інш.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ПЛЁН І РАДАСЦЬ

4-га верасня г.г. на цэнтральныя дажынкавыя ўрачыстасці з'ехалася ў Варшаву звыш 50 тысяч сялян — прадстаўнікоў вясковай грамадскасці. Побач хлебаробаў на трыбунах заселі рабочыя новых фабрык, асабліва тых, якія прадукуюць для сельскай гаспадаркі.

Роўна а 10-тай гадзіне на ганаровай трыбуне паявіліся гаспадар дажынак — І-ры Сакратар ЦК ПАРП, тав. Уладзіслаў Гамулка, старшыня Дзяржаўнай Рады, тав. Эдвард Охаб, прэм'ер-міністр тав. Юзэф Цыранкевіч, правадыры ЗСЛь і СД ды многія іншыя кіруючыя асобы — члены ўрада, прадстаўнікі цэнтральных органаў палітычных партый, грамадскіх і прафсаюзных арганізацый.

Цэнтральныя дажынкавыя ўрачыстасці адкрывае дзяржаўны гімн і старая рэвалюцыйная сялянская песня. «Калі народ у бой...» Потым выступае з кароткай прамовай старшыня Цэнтральнага Праўлення Саюза сельскагаспадарчых гурткоў — Францішак Гесінг. Затым зялёная мурава прасторнай спартыўнай пляцоўкі загараецца разнаколернымі жывымі кветкамі. Гэта аб'яднаныя народныя мастацкія калектывы вядуць карагоды, спяваюць, танцуюць. Сярод гэтага радаснага вясёлага натоўпу пад музыку дажынкавага сігналу ўрачыста паяўляецца аграмадны багата прыбраны дажынкавы вянок. Над ім серабрысты арол. Ад імя ўсіх сялян краіны гэты вянок, хлеб і соль, як сімвалы плёну і працы, перадае Уладзіславу Гамулцы стараста дажынак, селянін з вёскі Баброўнікі ў Лавіцкім павеце — Станіслаў Салямон разам з Янінай Ратай з вёскі Воцлавы ў павеце Прушч Гданьскі. Стараста дзякуе партыі і ўраду за дбайныя адносіны да сялян і заяўляе: «Прыносім вам традыцыйны хлеб. Мы пераконаны, што падзеліце яго між наш народ справядліва, — як дагэтуль.»

Уладзіслаў Гамулка з хваляваннем пераймае хлеб і соль і шчыра дзякуе старасце. Затым, вярнуўшыся на ганаровую трыбуну, звяртаецца да ўсіх прысутных з прамовай, у якой высока ацэньвае цяжкую працу сялян і вызначае новыя мэты змаганняў. Перш за ўсё трэба ліквідаваць недабор збожжа ў краіне, каб не купляць яго за мяжой. Дзеля гэтага на працягу бліжэйшай пяцігодкі неабходна павысіць сярэдні ўраджай збожжа да 21 цэнтнера з гектара. Уладзіслаў Гамулка даў рашучы адпор разбойніцкай і злачыннай дзейнасці ЗША ў В'етнаме, заяўляючы, што наша краіна заўсёды будзе стаяць за в'етнамскі народ.

Пасля выступлення І-га Сакратара ЦК ПАРП, стадыён зноў заварушыўся жывымі шматкаляровымі кветкамі. Зноў пайшлі карагоды, танцы, песні і жывыя фігуры, сярод якіх паяўляюцца асноўныя даты з нашай гісторыі. Вечарам удзельнікі дажынак правялі час у тэатрах, кіно і на экскурсіях па сталіцы.

## ВАЯВОДСТВА

**Gazeta BIAŁOSTOCKA**

ORGAN KW POLSKIEJ ZJEDNOCZONEJ PARTII ROBOTNICZEJ

Ужо 15 год верна служыць сваім чытачам. Першы нумар паявіўся 1 верасня 1951 года. Выходзіла яна тады тыражом у 10 тысяч экземпляраў. Цяпер тыраж «Газеты» даходзіць да 100 тысяч, а тыраж нядзельнага яе выдання дасягае 115 тысяч. Экзекутыва Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку ў прывітальным лісце, з якім звярнулася да рэдакцыйнага калектыву «Газеты», між іншым сцвярджае: **«Газета Беластоцкая» заваявала сабе давер і прызнанне не толькі ваяводскай партыйнай арганізацыі, але таксама сярод шырокіх слаёў беспартыйных людзей працы... Штодзень чытае яе кожны трэці жыхар ваяводства, а ў Беластоку амаль кожны жыхар горада».**

Па-праўдзе, рэдакцыйны калектыў «Газеты» выдае зараз аж тры розныя газеты пад адным загалоўкам. Горад Беласток — выданне «А» — мае сваю газету, паўднёва-ўсходнія паветы — выданне «АВ» — сваю, а паўночна-заходнія паветы — выданне «АВС» — сваю. Пачынаючы ад 1 студзеня 1967 года паявіцца яшчэ выданне «ABCD» — чацвёртая мутацыя «Газеты Беластоцкай». А да таго даходзіць яшчэ, вельмі папулярны сярод сялян, штотыднёвы дадатак «Рольнік беластоцкі» і суботні «Магазін».

Усё, што адбывалася на Беласточчыне на працягу 15-ці мінулых год, знайшло сваё адлюстраванне ў заметках, інфармацыях, артыкулах і фельетонах журналістаў «Газеты». Яны неаднойчы прыдумвалі і праводзілі каштоўныя акцыі. Хопіць, для прыкладу, прыпомніць хаця б конкурс «за найпрыгажэйшы горад», а «шклянка малака для дзіцяці», а конкурс «сядайце — едзем», а конкурс на загаспадараванне сенажацяў і шмат другіх пачынанняў.

У рэдакцыю штодзень наплывае па некалькі дзесяткаў лістаў ад чытачоў. Шырокія таксама кантакты рэдакцыя ўтрымоўвае з замежнымі краінамі, асабліва з суседняй Гродненскай вобласцю БССР.

Паміж калектывам «Газеты Беластоцкай», а нашым ніваўскім калектывам існуе цеснае, шчыра сяброўскае супрацоўніцтва.

Абедзве нашыя газеты выдае адно Беластоцкае прэсавае выдавецтва.

Шчыра тады жадаем сваім сябрам з «Газеты Беластоцкай» яшчэ большай папулярнасці і зацікаўлення сярод чытачоў. Жадаем, каб не высыхала ў іх крыніца творчых і каштоўных замыслаў.

# Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA, 11.IX.

8.30 Politechnika TV: Matematyka: Wykład z geometrii wykreślnej. Wiadomości wstępne. Wykładowca — prof. dr Franciszek Otto; 9.05 Politechnika TV: Wykład o chemii — „Pierwiastek, atom, cząsteczka". Wykładowca: doc. dr Zbigniew Gregorowicz; 9.35 25 lekcja języka rosyjskiego; 9.55 Politechnika TV: Wykład z matematyki — Przegląd działów matematyki. Wykładowcy: — doc. dr Stanisław Gładysz, Roman Leitner, Józef Łukaszewicz; 10.25 Przerwa; 11.00 Program dnia; 11.05 Dla młodych widzów „Kino Przygoda": „Białowłosy i gołąbek" — film fab. bułg.; 12.00 PKF; 12.10 Wiadomości dziennika tv; 12.20 „Bawcie się z nami" — zespoły amatorskie przed kamerami; 12.50 „W starym kinie"; 13.50 Tygodnik Wiejski; 14.15 Dla dzieci: widowisko lalkowe; 14.55 „Ludzie i zdarzenia"; 15.10 „Thelonius Monk" — zespół jazzowy; 16.00 Sprawozdanie sportowe; 18.30 „Mecenas Adam Kowalski", odcinek II „Chuligan" J. Ponitckiego. Wykonawcy: D. Zaborowska, A. Sobolewska, Z. Wicińska, Z. Jasiecki, L. Szymocha, J. Sobolewski, J. Mędwecki, J. Korcz, H. Maruszczyk, S. Ichniowski, Z Ogrodziński; 19.30 „Dobranoc"; 19.40 Dziennik TV; 20.10 „Stare życiorysy" — program A. Małachowskiego; 20.30 „Upiór na sprzedaż" — film fab. radz.; 21.50 „Śpiewa Mieczysław Święcicki"; 22.10. „Niedziela Sportowa".

PONIEDZIAŁEK, 12.IX.

17.05 Program dnia; 17.10 „Na półkach księgarskich"; 17.20 Wiadomości dziennika TV; 17.25 Dla dzieci. „Opowieści znad rzeki" — film; 17.40 Dla młodych widzów: „Pies, mój przyjaciel"; 18.00 „Lekcja spółdzielczości" — („7 milionów młodych"); 18.15 Kino Krótkich Filmów; 18.35 „Gorąca linia" (Katowice, Kraków); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Pilot z Ismailli" — film pol. (Tele-Ar); 20.15 Teatr TV: „Amfityon" — komedia P. Zabłockiego. Wykonawcy: A. Milewska, B. Krafftówna, Z. Zapasiewicz, M. Czechowicz, B. Wrzesińska, T. Pluciński, Z. Kryński, W. Wichurski, J. Nowak, W. Kałuski, R. Ostałowski; 21.35 „Eureka"; 22.05 Kronika Kulturalna; 22.25 Dziennik TV.

WTOREK, 13.IX.

10.55 Dla szkół: (kl. X) Język polski — J. W. Gothe „Faust" („Dzieje dramatu"); 11.35 „Bokser i śmierć" — film fab. CSRS; 13.15 Przerwa; 16.00 Politechnika TV. Matematyka: „Uogólnienie pojęcia liczby". Wykładowca: doc. dr A. Zięba; 16.30 Politechnika TV. Matematyka: „Aksjomat, definicja, twierdzenie, dowód". Wykładowca doc. dr R. Leitner; 17.00 Program dnia; 17.05 Wiadomości dziennika TV; 17.10 „Medale i detale"; 17.25 Dla młodych widzów: „Wędrowny grajek" — film („Kapitan Tenkesz"); 17.50 Informator handlowy; 17.55 Wszechnica TV: „Dielektryk w promieniu lasera". Przed kamerą — prof. A. Piekara — dyrektor Instytutu Fizyki PAN; 18.25 „Nuncza" — film. program baletowy; 18.55 „Trzecia lekcja"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Maski 66" — „Jak w siódmym niebie". Wykonawcy: B. Rylska i W. Gliński; 20.25 „Bokser i śmierć" — film fab. CSRS; 22.10 Dziennik TV; 22.20 Program na jutro; 22.25 Politechnika TV. Matematyka: Uogólnienie pojęcia liczby (powt.); 22.55 Politechnika TV. Matematyka: Aksjomat. definicja, twierdzenie, dowód (powt.).

ŚRODA, 14.IX.

10.00 „Maskarada" — film („Baron"); 10.50 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Znaczenie chemii"; 13.15 Przerwa; 15.30 Reportaż z Muzeum Lenina w Moskwie; 16.35 26 lekcja języka rosyjskiego; 17.00 Program dnia; 17.05 PKF; 17.15 Wiadomości dziennika TV. 17.20 „Tramp" — mag. turystyczno-krajoznawczy; 17.35 Dla dzieci: „Przygody błękitnego rycerzyka" — film; 17.45 Dla młodych widzów: Teatr Jednego Aktora — R. Liskowski „Sprawiedliwa bitwa"; 18.00 „Z drugiej strony szklanego ekranu" — skrzynka ZURT-u; 18.15 Program muzyczny; 18.45 Wszechnica TV. „Klub opowieści z myszką"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Maskarada" — film („Baron"); 21.05 „Światowid" — mag. wydarzeń międzynarodowych; 21.30 Film; 22.00 Dziennik TV.

CZWARTEK, 15.IX.

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Język polski — „Spotkanie z Marianem Brandysem" („Spotkania"); 10.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — „Życie ludzi pierwotnych" — rep. z Muzeum Archeologicznego; 12.25 Przerwa; 16.25 26 lekcja języka francuskiego; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla dzieci: film; 17.15 „Nie tylko dla pań"; 17.25 „Czwarta zmiana"; 17.35 „Skrzyżowanie dróg" — teleturniej; 17.55 „1000 lat kultury polskiej" — teleturniej; 18.55 „Sylwetki X Muzy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Piosenki z łezką" — włoski program rozrywkowy; 20.15 „Bomba na głównej ulicy" — film fab. ang.; 21.15 Dziennik TV; 21.25 Magazyn Medyczny; 22.55 Program na jutro; 22.00 26 lekcja języka francuskiego.

PIĄTEK, 16.IX.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) „Zamki i klucze" („Zajęcia techniczne"); 10.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. I) „Idziemy do szkoły"; 13.00 Przerwa; 16.25 26 lekcja języka angielskiego; 16.50 Program dnia; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla młodych widzów: „Szkoła na tranzystorach"; 17.35 „Proch" — film („Kapitan Tenkesz"); 18.00 Wszechnica TV: „Spacery Warszawskie"; 18.30 „Wielokropek" — tyg. aktualności satyrycznych; 18.50 „Poligon" — wojskowy przegląd TV; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Symfonia dla samotnego człowieka" — balet Maurycego Bejarta; 20.15 — Film fabularny; 20.45 Dziennik TV; 21.55 Program na jutro; 22.00 26 lekcja języka angielskiego, powt.

SOBOTA, 17.IX.

10.00 „Długi sznur" — film fab. USA; 11.00 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „W Tatrach"; 12.25 Przerwa; 15.15 Program dnia; 15.20 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 15.35 Program tygodnia; 16.55 Wiadomości dziennika TV; 16.00 Sprawozdanie sportowe; 18.30 Tele-Echo; 19.00 „Miłość i Sekwana" — paryski program baletowy; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.05 „Warszawska Jesień" — Inauguracja Festiwalu Muzyki Współczesnej. (Transmisja z Filharmonii Narodowej w Warszawie). Wykonawcy: Orkiestra Symfoniczna FN pod dyr. St. Wisłockiego. Artur Rubinstein — fortepian; 21.05 Dziennik TV; 21.20 Wiadomości sportowe; 21.30 „Przy sobocie po robocie" — program rozrywkowy; 22.30 „Długi sznur" — film fab. USA.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

Наша Акцыя

# КРЫПТАНІМ „В"

# СТРАШАВА

Вёска Страшава раскінулася па 38 хутарах паабапал чыгункі, якая спалучае Беласток з Беластоцкімі Крынкамі. Гаспадароў у Страшаве аднак больш як дамоў. Солтыс Мікалай Карпюк налічвае 45. Усе яны разам маюць каля 550 гектараў зямельных угоддзяў. Найбольш сенажацяў і лугоў. Ворыва на тры разы менш. Гавораць, што зямля не найлепшая. А ўсё ж у Страшаве бедных няма.

**ЗАЛАТЫЯ КРАСУЛІ**

Кароў у Страшаве больш як жыхараў. Вось у Юліяна Парэмбскага на адну душу сям'і выпадае па дзве кароўкі. Хлеў унутры пабелены. Над галовамі ў кароў таблічкі з асаблівасцямі каровячай характарыстыкі.

— Вось гэтая і гэтая, — паказвае гаспадар, — даюць мне да пяці тысяч літраў малака ў год. Не магу скрыць свайго здзіўлення. То ж сярэднія надоі ў Беластоцкім ваяводстве не перавышаюць нават 2 тысяч літраў.

— Не верыце? Дык праверце ў Міхалоўскай малачарні. Яны мяне дакладна кантралявалі, — гаворыць Парэмбскі.

Здзіўляцца прыходзіцца мне яшчэ не адзін раз. Вясной і летам Юліян Парэмбскі адстаўляе ў малачарню па 60 літраў малака ў дзень. А такіх гаспадароў, што прадаюць па 40—50 літраў, у Страшаве вельмі многа.

**СТРАШАЎСКІ ГУРТОК**

Быў заснаваны вясной 1965 года і налічваў 28 членаў. Старшынёю выбралі энергічнага гаспадара і солтыса вёскі Мікалая Карпюка. За грошы з дзяржаўнага фонду развіцця сельскай гаспадаркі страшаўцы адразу купілі абмалотачны агрэгат і трактарны камплект. Першы год супольнага гаспадарання машынамі закрылі яны без затрат, хаця новы трактар не мог працаваць поўнай парай. Было нават паўтары тысячы чыстага даходу. А праўленне атрымала ўзнагароду.

Цяпер, па праўдзе, сельскагаспадарчага гуртка ў Страшаве няма. Былы старшыня са смуткам гаворыць:

— Павятовыя ўлады пастанавілі спалучыць наш гурток з Міклашэўскім. У нас малая вёска, няма перспектыў развіцця. Не было рады. Прыйшлося згадзіцца. А ўсё ж цяпер нам горш. За машынамі трэба бегаць у Міклашы. Не заўсёды ўдаецца дабегчы першым.

**ШКОЛА**

Настаўніцу Марыю Вільчынскую 4 гады таму назад прывёз у Страшава сакратар павятовага камітэта ПАРП тав. Каміньскі.

— Ледзь знайшла я тады страшаўскую школу, — успамінае настаўніца. — Памяшчалася яна ў частцы старэнькай вясковай хаты. Шчыра дапамаглі мне ўсе жыхары вёскі. На пачатку 1964 года даведаліся мы, што ў Беластоку можна бясплатна атрымаць драўняны будынак, прызначаны на развалку. Выбралі тады мы камітэт для пабудовы школы. Яго склалі: Аляксандр Лебядзінскі, Вінцук Карпюк і Юліян Парэмбскі. У лютым перавезлі дараваны будынак, а вясною прыступілі да работы. Працавалі ўсе дружна. Нават у жніво і сенакос.

У новай школе страшаўскія дзеці пачалі вучыцца ў лістападзе 1965 г. Тут таксама выгоднае памяшканне мае настаўніца і яе сям'я.

**СВЯТЛО**

Электраэнергія трапіла ў Страшава недзе ў 1951 годзе. На жаль, не ўсе гаспадары могуць карыстаць з дабрадзействаў электраэнергіі. Электраэнергія амінула нейкіх 20 гаспадароў. Проста прадпрыемства электрыфікацыі сельскай гаспадаркі працягнула драты да сяліб, якія знаходзяцца ў цэнтры Страшава, а далейшыя хутары асталіся без святла.

Сельскагаспадарчы аддзел Беластоцкага павета паабяцаў ім у мінулым годзе, што ў гэтым — 1966 годзе — скажа, ці дакончыць электрыфікацыю вёскі, ці не. Страшаўцы чакаюць, але як да гэтага часу — без ніякага выніку.

Карпюкам, што жывуць за чыгункай пад самым лесам, ужо надаела чакаць. Дабываюць яны электраэнергію ўласным промыслам. Высока над хатай тырчыць вятрак і ён гоніць электрадынама. Так набівае акамулятары і ад іх расплываецца электрычнасць па ўсёй хаце. Слабенькае гэта святло, ледзь на 12 вольт.

**СВЯТЛІЦА**

Будавалі яе яшчэ ў 1950 годзе. Супольна купілі нейкі барак. Перавезлі на новае месца, і з таго ўзнікла святліца. А над яе дахам тырчыць тэлевізійная антэна. Тэлевізар страшаўцы атрымалі ад прэзідыума павятовай рады за працу грамадскім чынам.

Страшаўская святліца вельмі дзіўная, бо яна і ёсць у Страшаве, і адначасова яе няма. Няма таму, што ўлады ніяк не хочуць прызнаць яе існавання, паслядоўна адмаўляюць плаціць за электраэнергію і не даюць вугалю. Таму зімой у страшаўскай святліцы можна вытрымаць толькі ў бараніцах і кажухах.

**ЗІНКА І ЯЕ СЯБРОЎКІ**

— Калі прыязджае кіно, дык у святліцы дэманструюць фільм. Мы амаль штогод ставім тут нейкую п'есу. Дагэтуль паставілі тры беларускія і адну польскую.

Гэта словы Зінкі Лебядзінскай, маладой актывісткі страшаўскага гуртка Саюза вясковай моладзі, выдатніцы курса сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Яна з'яўляецца правай рукой старшыні гэтага гуртка, вучаніцы беластоцкага эканамічнага тэхнікума Іркі Клапатоўскай. Моладзі ў працы шчыра дапамагае настаўніца чатырохкласнай страшаўскай школы Марыя Вільчынская.

**СТРАШАЎЦЫ Ў СВЕЦЕ**

Цётка Ольга Карпюк, якой ужо 62 гады, аповесць пра свае справы пачала ад партызанскіх успамінаў. Калі мы наслухаліся пра тое, як яны хавалі ў сваім гумне аўтара «Пушчанскай адысеі», як выпраўлялі яго ў партызаны, як дапамагалі ім у харчаванні і наладжвалі пастаянную з імі перапіску, цётка Ольга пачала апавядаць аб сваіх дзецях.

Было іх шасцёра.

Амаль усе яны раз'ехаліся па свеце. Толькі ўнукі бегаюць па панадворку. Змяшаліся вясковыя з гарадскімі, ды не разабраць, хто адкуль.

— Лена — яна найстарэйшая, — Оля і Валодзя — пералічвае цётка Ольга, — жывуць і працуюць у Беластоку. Гэтае святло, — паказвае на вятрак, што тырчыць высока над хатай, — зрабіў менавіта Валодзя. У яго залатыя рукі. Усё, што захоча, можа зрабіць. Пеця — у Любліне. О, пра яго часта ў газетах пішуць, ён па радыё выступае і ў тэлевізіі! Ён дактарат мае. А Валя на радыётэхнічным факультэце Варшаўскага палітэхнічнага інстытута асістэнткай працуе.

Інжынер, магістр, лекар, доктар — гэтыя словы неяк незвычайна гучаць у вуснах старэнькай вясковай бабулі, але ў Страшаве яны зразумелыя і папулярныя. Іх цалкам звычайна паўтараюць тут у многіх хатах. Страшаўцаў з тэхнічнымі і агульнаадукацыйнымі атэстатамі сталасці не прабаваў я нават пералічваць.

Тэкст і фота **В. Рудчык**



**Страшаўцы — народ дружны. Вось сабраліся ў школе і раяць супольна над нечым. У цэнтры солтыс Карпюк.**



**Да хаты Івана Карпюка не дайшла электралінія, дык сын яго, Валодзька, збудаваў уласную электроўню, якая поўнасцю заспакойвае патрэбы гаспадара, але залежыць, на жаль, ад капрызаў ветру.**



**Малашка Парэмбская вобразна ўспамінае рэвалюцыю і партызанскае мінулае, а цяпер выдатна гадуе свіней.**



**Ольга Карпюк былая партызанская сувязная пражыла ўжо 62 гады і выхавала 6 дзяцей. Усе яны атрымалі належную адукацыю і выраслі на добрых людзей.**



**Юліян Парэмбскі — чалавек-гісторыя. Дасканалы гаспадар і арганізатар многіх грамадскіх мерапрыемстваў у Страшаве.**



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

### ЛЕТА ЗАКОНЧЫЛАСЯ

**Гарцэрская арганізацыя Беласточчыны налічвае 87.875 асоб і займае першае месца ў краіне па ліку гарцэраў.**

## «ГАРЦЭРСКАЯ ГАВЭНДА...»

Яна спакойная, без нерваў, нават калі падаюць словы моцна крытычныя. У лагеры, на біваку, ці ў час гарцэрскіх вандровак няма гневу. Ёсць воля быць здысцыплінаваным, сільным, сумленным і мудрым. Гарцэрства, як ніякая іншая арганізацыя, развівае фантазію, і за гэта слава яму! Калі слухаеш гарцэрскія назвы, чытаеш іх хронікі, паўтараеш песні, узлятаеш тады ў іншы свет, такі свежы, прыгожы, бадзёры. Маладзееш! Тут, у гарцэрскай дружыне, кожны творыць, кожны вучоны, паэт, падарожнік, вынаходца. Таму мо і горнецца школьная моладзь да гарцэрства.

Беластоцкае ваяводства (не праслаўленае наогул творчай фантазіяй дарослых) мае найбольш шырока развітую гарцэрскую арганізацыю ў краіне. І вёска наша дае найбольш гарцэраў. Як жа добра гэта!

Ведаю нашых вясковых дзяцей, асабліва беларускіх. Яны больш сумныя ад іншых, больш удумлівыя, чулыя; найменш маюць дзіцячых садоў, розных пляцовак для гульняў; найбольш працуюць і найбядней апрануты.

А гарцэрства? Гэта для іх старт у таямнічы, поўны неспадзяванак свет, такі багаты, як у беларускай казцы. Таму ў беларускіх вёсках найлепшыя гарцэрскія дружыны, таму ў беларускіх паветах найлепшыя дасягненні.

Але хопіць слоў, падам некалькі лічбаў, якія пачула на гарцэрскай канферэнцыі, што адбылася (а як жа!) сярод лесу, дзе шумелі сосны і блішчала вада, і дзе было так спакойна, што зайздрасць брала і шкада было, што самому не можна быць гарцэрам. Канферэнцыя праводзілася ў Зялёнай (тыповая гарцэрская назва) каля Беластока.

Расказ быў аб летняй гарцэрскай акцыі 1966 года. 76 лагераў, 8300 гарцэраў у іх. 15 зухавых калоній (зухі — малодшы брат гарцэраў з класаў 2—4), 600 дзяцей.

Над рэкамі, азёрамі, сярод лясоў і ўзлескаў шукалі гарцэры незабыўных прыгод і перажыванняў. Знайшлі.

Лагеры ваяводства і вандроўкі ацэньваюцца на выдатна, у чым заслуга кадры, якая складаецца ў вялікай меры з настаўнікаў.

А т.зв. акцыя «неабазовая?» Гэта гарцэрскія вандроўкі. Аж 50 тысяч дзяцей прыняло ў іх удзел. Былі гарцэрскія «выправы смелых», «групы Вінету». У гэтай акцыі непераможным аказаўся Бельскі павет, які здабыў пераходны Кубак Каменданта Беластоцкай харугві. У Бельскім аж 70 працэнтаў усіх дзяцей прымала ўдзел у гарцэрскім лецe. Добра выпала Саколка — 64 працэнты ўсіх дзяцей. Куратар, які прысутнічаў на канферэнцыі ў Зялёнай, вельмі цёпла адазваўся аб гарцэрскай дзейнасці як неадлучнай частцы працы школы.

Настаўнікі нашы з'яўляюцца вялікімі заслужанымі таксама і ў гарцэрстве.

(вл)

### ПАРТРЭТЫ НАШАЙ ВЁСКІ



Андрэй Сяргеюк настаўнік-пенсіянер з Трасцянкі.

Фота: Ул. Паўлючук

## Мая прапанова

(Працяг са стар. 1)

санні звычайнага нашага сучаснага быту могуць мець не меншую навуковую вартасць, чымсьці апісанне старых форм народнай культуры.

Ад часу запісання праз Леві-Страуса прыведзеных заўваг прайшло амаль паўстагоддзя, і пэўныя справы ў навуцы аб культуры сталіся амаль яснымі. Амаль ясным сталася, што традыцыйнае этнаграфічнае збіральніцтва паасобных элементаў народнай культуры вырваных з кантэксту цэласці жыцця траціць свой сэнс, у меру таго, як распадаюцца першабытныя і народныя культуры, а этнаграфам штораз цяжэй акрэсліць прадмет сваіх доследаў.

Даследванні народнага быту павінны дапамагаць нам між іншым разумець стымулы і грамадскую абумоўленасць чалавечых дзеянняў, дапамагаць разумець унутраны механізм грамадскіх перамен, іх складанасць і няўхільнасць, дапамагаць прадбачваць грамадскія працэсы.

Паводзіны і дзеянні беларусаў у сучасны момант акрэслівае не народная культура, не прынцыпы традыцыйнай народнай маралі і народнага светапогляду, не народныя звычаі і абрады, акрэслівае іх сітуацыя, якая паўстала ў выніку сутыкнення традыцыйнай народнай культуры з так званай «масавай культурай», якая пранікае на вёску праз друк, кніжку, радыё, тэлевізію, асабістыя кантакты сялян з горадам і з людзьмі з горада. Формы чалавечай культуры зараз штораз больш універсалізуюцца: у Парыжы, у Токіо, у Беластоку і ў беларускай вёсцы чуюцца штораз часцей тыя самыя песні, выканаnыя тымі самымі песнярамі, людзі апранаюцца ў падобную вопратку, карыстаюцца падобнымі прыладамі.

Вывучаць нашую беларускую, вясковую сучаснасць можна рознымі метадамі, адным з найцікавейшых быў бы аналіз асабістых дакументаў: успамінаў, дзённікаў, мемуараў і т.п. Таму прапаную Галоўнаму праўленню БГКТ аб'явіць конкурс на ўспаміны беларусаў маладога пакалення, якія асабліва моцна адчуваюць на сабе гэтае сутыкненне традыцыі і сучаснасці, народнасці і тэхнічнай цывілізацыі.

Успаміны такія адпаведна спапулярызаваныя маглі б прынесці багаты матэрыял, які мог бы паслужыць да аналізу перамен, якія перажывае беларуская вёска і беларускае насельніцтва наогул. Павінны яны прынесці магчыма падрабязнае апісанне сялянскага жыцця на працягу пэўнага адрэзку часу, а таксама апісанне адчуванняў, настрояў і думак іх аўтараў, апісанне галоўных падзей у іх жыцці.

Выступленне маё мае і іншага не менш важнага адрасата. Хацеў бы менавіта заахвоціць усіх нашых чытачоў, пражываючых у вёсцы, а перад усім вясковую інтэлігенцыю да спісвання ўспамінаў мінулага і дзённікаў сучаснага жыцця. Дробныя, здавалася б без значэння, нататкі з уласных спасцярог, адчуванняў, заўваг, дробныя вясковыя здарэнні, размовы, клопаты і праблемы — усё гэта ў цэласці стацца можа не толькі цікавым матэрыялам навуковага характару, але і цікавай літаратурай для чытача, які перажывае падобныя праблемы і адчуванні, бывае ў падобных абставінах і сітуацыях. І таму цікавейшыя матэрыялы такога характару могуць быць друкаваны на старонках «Нівы».

Ул. Паўлючук

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

**Ліст у рэдакцыю**

**Дарагая «Ніва». Мы купілі ад дзяржавы барана з пароды мерыносаў і не ведаем, як трэба з ім абыходзіцца. Некалькі год таму назад некалькі гаспадароў купілі такіх жа бараноў, але бараны змарнаваліся. Напішы, колькі разоў у год мерыносаў трэба стрыгчы, ці таксама трэба даглядаць, як нашых авечак, і ці яны не баяцца дажджу. Гэта многіх цікавіць.**

**В. Янцэвіч**

в. Скупава

### МЕРЫНОС — ДОБРАЯ ПАРОДА

Каб хоць агульна адказаць на пісьмо чытачкі, трэба ахарактарызаваць пароды авечак, якія гадуюцца на Беласточчыне. Самая прымітыўная парода — т. зв. свіняркі. Ёсць яшчэ верасоўкі — таксама не найлепшыя. Напр., вага дарослай авечкі-свінякі — 25 кг, настрыжка воўны першага гатунку — 2 кг. Гадоўля такіх авечак не рэнтоўная. Таму і штогод адзначаем абніжку пагалоўя авечак. Але змяншэнне пагалоўя наглядалася толькі сярод горшых парод. Пагалоўе якасных парод павялічвалася. Усё больш у нас доўгаваўністых авечак. Імкнемся да таго, каб дарослая авечка важыла 70 кг, а маркач — 90 кг (настрыжка воўны 3,5 кг і 5 кг.) Гэта мінімум, які ставяць сабе авечкагадоўцы.

У працы над паляпшэннем пароды важную ролю адыгрывае іменна мерынос. Мерыносы — найлепшая парода авечак. Мерыносы маюць добрую вагу, але самае галоўнае — дасканалую воўну: белую, тонкую, моцную, эластычную, лёгкую і простую ў апрацоўцы.

Мерыносы выводзяцца з Азіі. У Польшчы прывезена з Германіі, Францыі і часткова з Аўстраліі. Вага 100-дзённага маркача — 28 кг, шасцімесячнага — 40 кг, паўтарагадовага — 85 кг, а двухгадовага — 100 кг. Даўжыня воўны за год — каля 8 см, а настрыжка — каля 6 кг ад маркача і 4—5 кг — ад авечкі.

Як бачым, у асноўным маем дзве групы авечак: 1) нашы прымітыўныя, але добра прыспасобленыя да нашых мясцовых умоў, невыбрэдныя, устойлівыя на холад і хваробы і 2) высокаякасныя, але патрабуючыя лепшых кармоў, лепшых умоў і лепшага догляду.

Авечкагадоўцы імкнуцца выкарыстаць лепшыя якасці і адной і другой груп. З першай групы трэба ўзяць устойлівасць і прыспасобленасць, з другой — якасць і колькасць мяса і воўны. І такім чынам выкарыстаць у жывёлагадоўчай працы нашу свінярку (або надморскую авечку), польскага мерыноса і англійскага кента. Кожная з гэтых парод мае свае добрыя бакі і калі іх скрыжаваць, могуць даць жаданы эфект: вялікую вагу цела, высакаякасную прамысловую воўну.

Але гэта вядзе за сабой пэўныя патрабаванні. Новую пароду авечак трэба лепш і больш карміць. Патрэбны лепшыя пашы, чыстыя і светлыя хлявы, загароды. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на дзве справы:

1) авечак трэба карміць сістэматычна на працягу ўсяго года, бо галадоўкі ўздзейнічаюць на т. званую нявернасць воўны, якая моцна абніжае гатунак воўны,

2) нельга, каб авечкі былі ў цесных і душных хлявах, бо аміяк і іншыя газы ўздзейнічаюць на жаўценне воўны. Пажоўклая воўна мае абмежаванае выкарыстанне ў прамысловасці.

Аб доглядзе мерыносаў чытай у наступным нумары

Інж. М. Сухажэбрскі

## ЛІСТ САКРАТУ ЯНОВІЧУ

**Прачытаў я ў «Ніве» ад 14 жніўня артыкул Сакрата Яновіча «Мае роздумы». Захацеў і сам выказаць некалькі думак, дакладней кажучы, паспрачацца з аўтарам.**

**Сакрата я ведаю і як чалавека і як здольнага маладога празаіка, а таму яго артыкул выклікаў у мяне асаблівае расчараванне. Пісаць так непрадумана пра тое, што нам асабліва дорага, што з'яўляецца нашым кроўным, нельга.**

**Зразумела, чаму аўтар падняў у сваім артыкуле пытанні лёсу нашай нацыі, нацыянальнай культуры, мовы. Гэтыя пытанні хвалявалі нашых продкаў, сёння яны хвалююць нас і, відаць, будуць хваляваць тых, хто прыйдзе пасля нас.**

**Гістарычны лёс нацыі, клопаты аб развіцці яе культуры, захаванні мовы — самага дарагога, што мае нацыя — усё гэта зусім заканамерна не можа не хваляваць нацыянальную інтэлігенцыю. І зварот да гэтай тэмы для С. Яновіча з'яўляецца заканамерным.**

**Шкада толькі, што артыкул атрымаўся зусім не такі, якім яго хацелася бачыць, у ім мноства недакладнасцей і памылак.**

**Так, ужо сам падзел Яновічам краін на тры групы вельмі ўмоўны і не заўсёды правільны. Напрыклад, да трэцяй групы С. Яновіч адносіць тыя краіны, якія «страцілі не толькі сваю незалежнасць, але страцілі таксама нацыянальную свядомасць». Сярод такіх краін Яновіч называе Фінляндыю, Латвію і Літву. Але калі да 1919 года Фінляндыя і Латвія мелі незалежнасць? Вядома, што яшчэ ў раннім Сярэднявеччы тыя дробныя княствы, якія існавалі на латышскіх землях, папалі пад уладу крыжаносцаў. З таго часу ажно да 1919 года Латвія сваёй самастойнасці ніколі не мела. Тое ж самае датычыць і Фінляндыі, якая спачатку знаходзілася пад уладай Швецыі, а пасля Расіі.**

**Вельмі спрэчныя і блытаныя думкі ў С. Яновіча пра Літву і літоўцаў. Цікава, напрыклад, ведаць, чаму Літва мела сваю дзяржаўнасць, а Беларусь — не. А што такое Вялікае княства літоўскае? Чыя гэта дзяржава? Літоўская? А чаму не беларуская? Няўжо назва вызначае сутнасць? Безумоўна, Вялікае княства літоўскае — гэта не толькі літоўская дзяржава, і не столькі літоўская, колькі беларуская, сумесная дзяржава беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў. А гэта азначае, што Беларусь адносіцца таксама да тых краін, якія мелі раней сваю дзяржаўнасць, а пасля яе страцілі. Не вытрымлівае ніякай крытыкі і сцвярджэнне Яновіча, што ў Вялікім княстве літоўскім «літоўцы захавалі свядомасць пануючай нацыі, зайздросна не дапускалі «рускіх» да адказных пасад, пагардліва называлі іх «гудаямі». Усё гэта няпраўда, сябра Яновіч, фактаў, якія падмацоўвалі б Вашую думку, няма. Вядомы дзесяткі прыкладаў, калі беларускія феадалы займалі самыя высокія пасады ў дзяржаве. Сапегі, Пацы, Кішкі, Чартарыйскія, Валовічы, Агінскія, Сангушкі, Саламарэцкія, Хаткевічы, Радзівілы і г.д. і г.д. — чые гэта прозвішчы — літоўскія ці беларускія? Ці многа знойдзеце Вы прозвішчаў феадалаў XV — XVIII ст. з літоўскімі прозвішчамі, якія займалі б адказныя пасады ў княстве. Думаю, што вельмі мала. Дык адкуль С. Яновіч узяў, што літоўцы не дапускалі беларусаў да адказных пасад? Агульнавядома, што феадальныя вярхі ў той час нават у карэннай Жмудзі ў значнай ступені былі падвергнуты беларусізацыі, што дзяржаўнай мовай на тэрыторыі ўсяго княства была беларуская. Хто ж, нарэшце, больш захоўваў нацыянальную свядомасць: літоўцы ці беларусы?**

**Гаварыць жа, што Кастусь Каліноўскі лічыў сябе палякам — значыць — зневажаць светлую памяць нашага нацыянальнага героя. Ніколі Каліноўскі сябе палякам не лічыў, нічога гэта няпраўда. Каб пераканацца ў гэтым, варта пачытаць кнігі нашага даследчыка Г. Кісялёва «Сейбіты вечнага» і «З думай пра Беларусь». У першай з іх вельмі шмат цікавых фактаў і пра Марцінкевіча. Дарэчы, Марцінкевічу таксама нельга прыпісваць тое, што ён лічыў сябе палякам. Вядомы яго выказванні, якія нібы-та і пацвярджаюць гэтыя думкі, але вядомы і іншыя, тыя, ён прама называе сябе беларусам. Ды ўрэшце і творчасць пісьменніка гаворыць сама за сябе. Цікава, хто яшчэ «многія» пасля Каліноўскага і Марцінкевіча лічылі сябе палякамі. Мо С. Яновіч меў на ўвазе Багушэвіча і Цётку з іх палымянымі заклікамі любіць і шанаваць сваю мову, а мо — Купалу з яго вершам «Ворагам Беларусчыны»?**

**Заключны абзац артыкула С. Яновіча проста паганы; у ім абраза ўжо не ў адрас аднаго чалавека, а цэлай нацыі, хаця аўтар, безумоўна і не хацеў, свя-**



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Рэфар. зямлі

(Працяг са стар. 1)

та заявіў, што тэрмін выканання зямельнай рэформы ўстанаўлялі палітыкі, а не спецыялісты і можна яе правесці не хутчэй як за тры гады. Адначасова гэтая ж управа вылучыла з-пад падзелу аж 1/4 частку ўсіх маёнткаў у ваяводстве.

Тады за справу ўзялася Польская рабочая партыя. Яна адклікнулася да рабочых. Першы сакратар Акруговага камітэта ППР у Беластоку Эдуарда Арлоўская адказала Рэўкоўскаму: «Мы драўнянай «казой» або крокамі вымераем зямлю, а рэформу мусім правесці неадкладна». Ва ўсе вёскі, дзе знаходзіліся маёнткі, паехалі рабочыя, перш за ўсё члены ППР і ПСС, але былі сярод іх таксама члены Стронніцтва людовага і некаторыя беспартыйныя. Рабочую брыгаду на Беластоцкі павет узначальваў цяперашні першы сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП тав. А. Лашэвіч. Тут у Беластоцкім павеце 22 кастрычніка 1944 года ўрачыста падзелена першы ў ваяводстве маёнтак у вёсцы Дабрынёўка. Беластоцкае ваяводства першае закончыла падзел памешчыцкай зямлі. Раздзелена 340 маёнткаў плошчай у 40 354 га. Зямлю атрымала блізка 13 тысяч сялянскіх сем'яў.

**Віктар Рудчык**

ЗМС на план

## МАЛАДОСЦЬ ШУМІЦЬ

Для моладзі з фабрык, школ, студэнтаў лета — гэта рухлівы і цудоўны час! Яна ідзе ў сонца, у лясы, над азёры. Арганізацыя ЗМС дбае, каб стварыць магчымасці адпачынку і пазнавання краіны. Апошняе лета на Беласточчыне было перапоўнена моладдзю.

У жніўні ў мясцовасці Боркі каля Аўгустова над возерам адбыўся Агульнапольскі злёт дваццацігодкаў. Арганізатары — тыднёвік «Палітыка» і Беластоцкі ЗМС. З моладдзю спатыкаліся папулярныя акцёры Вайцех Семён і Адам Ганушкевіч. За лета адбылося 13 лагераў з лікам удзельнікаў звыш 2 тысяч. Арганізатары высока ацэньваюць узровень заняткаў і дыскусій, якія вяліся ў лагерах. Упершыню быў уведзены метад, што заняткі вядзе ўдзельнік лагера, а не прыезджы выкладчык. У верасні пачынаюцца традыцыйныя ЗМС-аўскія райды — вандроўкі. Два райды адбудуцца праз Белавежскую пушчу: школьны і працуючай моладзі. У час школьнага адбудзецца конкурс на найпрыгажэйшы ліст Пушчы.

Беластоцкія студэнты Акадэміі, Інжынерскай школы і настаўніцкіх студый, якіх налічваецца разам 3 тысячы, будуць мець у кастрычніку і лістападзе дзве вялікія імпрэзы: першая — «Асенція студэнцкія сустрэчы» — праз 7 дзён будуць выступаць культурныя студэнцкія калектывы з Гданьска, Варшавы (слаўны хор Варшаўскай Палітэхнікі), Кракава, Любліна, Лодзі. Другая — гэта «Тыдзень Рэвалюцыі». Кастрычніцкай, зразумела. Адбудзецца ў ім конкурс тэатраў паэзіі на савецкую паэзію, а таксама на індывідуальныя дэкламацыі савецкіх вершаў. (вл)



Боркі каля Аўгустова над Студзенічным возерам, дзе адпачывалі ЗМС-аўцы.
фота: Я. Мазурэк

## Гайнаўская тысячагодка

*За кошт 8,5 мільёна злотых пабудавана ў Гайнаўскім квартале «Хімічная» новую школу-помнік Тысячагоддзя Польскай Дзяржавы. Новая школа ў прысутнасці ваяводскіх і мясцовых улад урачыста 1 верасня г.г. была пераказана ў карыстанне вучням.* (вр)

## Скупка ільну

Скупачны пункт ільняной саломы ў вёсцы Аўгустова пад Бельскам ужо распачаў прыёмку гэтай карыснай сыравіны. Сяляне дастаўляюць зараз па звыш 200 тон ільну ўдзень. Часткова змеханізавана тут укладванне ільняных стагоў. Людзям дапамагае ў гэтай цяжкай працы 4 пад'ёмныя машыны.

## ВЕСТКІ ПАЧУТЫЯ, САБРАНЫЯ, ЗАПІСАНЫЯ

### ЦЫГАНСКІЯ ДЗЕЦІ

На Беласточчыне жыве 160 цыганскіх дзяцей у школьным узросце. 127 з іх ходзіць у школу, як гаворыцца «у кратку» г. зн. раз ідзе, раз не ідзе. 23 увогуле не ходзіць. Найбольшае скапленне цыганоў маем у Сувальскім, Гайнаўскім і самой Гайнаўцы.

### ЗДАРОВЫ МЕЛЬНІК

Найздаравейшая мясцовасць на Беласточчыне — гэта Мельнік і Драгічын у Сямяціцкім павеце на высокім беразе Буга.

### 150 ТЫСЯЧ...

...рабочадні апусцілі настаўнікі ваяводства ў мінулым 1965 годзе. Гэта на розныя канферэнцыі, грамадскія працы. Нашы настаўнікі замнога нагружаныя грамадскай працай, за якую ані граша. Хоць бы падзяка была сардэчная!

(вл)

**дома гэтага зрабіць. Давайце ўдумаемся ў сэнс слоў: «Тым часам мы маем дачыненне толькі з беларускім пачуццем, вельмі блізкім да рэгіянальнага пачуцця, напрыклад, мазур, гураль, кракавяк, валжанін, масквіч, варонежац». Няпраўда, сябра Яновіч. Гэта проста знявага беларусаў. Безумоўна, такіх людзей можна знайсці сярод беларусаў, але іх з такім жа поспехам можна знайсці, напрыклад, сярод украінцаў і літоўцаў. А тыя якасці, якія ўласцівы асобным людзям, нельга пераносіць на нацыю ў цэлым.**

**Мне таксама невядома, як трэба разумець, што «ў сучасны момант беларусы знаходзяцца ў стане распаду на тры моўныя стыхіі: рускую, беларускую і часткова польскую.» Зноў жа ўсё пастаўлена з ног на галаву. Безумоўна, мы ведаем, што многія беларусы жывуць і працуюць у Расіі, Польшчы, Украіне і г.д. Яны паступова забываюць сваю мову, культуру, далучаюцца да той нацыі, сярод якой жывуць. Але ж існуе і адваротны працэс, калі прадстаўнікі іншых нацый, якія жывуць у Беларусі, прымаюць беларускую культуру і мову, яна становіцца для іх роднай. Як жа быць тут! Напрыклад, па перапісу 1959 г. большая частка палякаў, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі, сваёй роднай мовай назвалі беларускую. Калі следаваць логіцы С. Яновіча, то можна зрабіць вывад, што ў сучасны момант палякі знаходзяцца ў стане распаду на дзве моўныя стыхіі: польскую і беларускую. Так гэта, ці не? Але чаму ж тады беларусы «распадаюцца», а палякі «не распадаюцца». Я не буду больш спыняцца на блытаных і памылковых сцверджаннях Яновіча. Адзначу толькі, што ўвесь тон артыкула вельмі нігілістычны, высакамерны. С. Яновіч не верыць у беларускую нацыянальную свядомасць, па сутнасці, яе адмаўляе. Але як тады растлумачыць той факт, што наш народ захаваў сваю мову, нягледзячы на страшэнны нацыянальны ўціск на працягу стагоддзяў. Як растлумачыць тое, што наш народ даў такіх людзей, як К. Каліноўскі (па Яновічу, паляк), Багушэвіч, Цётка, Купала, Гарун, Багдановіч, Колас і інш. Як растлумачыць той факт, што сёння наша літаратура і культура вядомы ўсяму свету, што сёння мы маем Мележа, Быкава, Л. Геніюш, Танка, Брыля, Караткевіча і многіх-многіх іншых. Як растлумачыць, што нашыя газеты і часопісы літаральна адно за другім «адкрываюць» імёны пачынаючых празаікаў і паэтаў — людзей не толькі таленавітых, але і з высокай нацыянальнай свядомасцю, такіх, напрыклад, як Жэня Янішчыц. Хацелася б, каб над усімі гэтымі пытаннямі сур'ёзна падумаў Сакрат Яновіч.**

**Мікола Прашковіч**
Мінск

# Дружба і праца

### ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VIII КЛАСА

**Якуб Колас — 1882—1956 (Сапраўднае прозвішча Канстанцін Міцкевіч). Народны пісьменнік Беларусі. Паходзіць з сялянскай сям'і. Многа год працаваў настаўнікам у беларускіх вёсках. Прымаў удзел у рэвалюцыйным антыцарскім руху, за што быў засуджаны на тры гады турмы. Вершы і апавяданні пачаў друкаваць у 1906 годзе. З гэтага часу яго талент пачаў развівацца вельмі хутка. Колас тварыў амаль ва ўсіх літаратурных жанрах. У яго спадчыне знаходзім вершы, вершаваныя фельетоны, паэмы, навелы, апавяданні, аповесці, раманы, п'есы, публіцыстыку. Да найбольш вядомых твораў Коласа належаць вялікія паэмы: «Новая зямля», «Сымон-музыка», «Рыбакова хата», аповесці і раманы «На прасторах жыцця», «Адшчапенец», «Дрыгва», «На ростанях», п'есы «Вайна вайне», «Забастоўшчыкі».**

**Творы Коласа звязаны з найбольш пераломнымі перыядамі ў жыцці беларускага народа: з рэвалюцыяй 1905 года, з I сусветнай вайной, з Кастрычніцкай рэвалюцыяй, з гітлераўскай акупацыяй, з мірнай працай савецкіх людзей. Творчасць Я. Коласа ўвайшла ў скарбніцу беларускай культуры і сталася ўласнасцю ўсяго беларускага народа.**

### ТРЫ БРАТЫ

Тром родным братам бог даў аднакі розум, аднакія мыслі і думкі. Толькі не аднакая доля спаткала кожнага брата ў жыцці. Хоць не ўсім братам не вельмі соладка жылося, але Меншаму Брату выпала самая горшая доля. Прысудзіла яна яму самы горшы куток, кінула між мхоў і балот. Кепска жылося Меншаму Брату. Плакаў ён і ніхто не бачыў яго слёз, ці не хацеў бачыць. Спяваў ён і песні, доўгія, нудныя песні, песні нядолі. Гаварыў і казкі і толькі ў казках ён бачыў сябе шчаслівым. Яго слёзы, змешаныя з божай расой, падымаліся к небу і адтуль кідаліся назад на зямлю чыстымі капелькамі. I так яны вечна кружацца з зямлі на неба, з неба на зямлю. I ніколі не высыхалі вочы Меншага Брата. Тоўсты, высокі лес адзін толькі слухаў яго песні і сам памагаў яму спяваць сваім доўгім шумам. Выходзіў Меншы Брат у вечар на двор, браў сваю дудку, садзіўся на прызбе сваёй хаты і граў. Месячык каціўся па небе, плылі белыя хмаркі. Божыя зоркі, як саромлівыя дзяўчаткі, пазіралі на зямлю праз белыя, тонкія хмаркі і слухалі Меншага Брата, як іграў ён на дудцы. I ціха было на сэрцы, як ціха была сама ночка. I думкі, як тыя хмаркі, лёгка радзіліся ў сэрцы і плылі яны бог знае куды, далёка-далёка, уміралі ціха-ціха, як паволі раставалі і хмаркі ў небе. Толькі пугач і сава злым крыкам будзілі ад шчаслівых думак Меншага Брата. Ён прачыхаўся, як ад сну, і думкі другія, думкі нядолі, як нажом калолі яму ў сэрца.

Ні думкі, ні песень яго ніхто не знаў і не чуў, ці не хацеў знаць і чуць. Яго жальба прападала, як прападаў туман з усходам сонца, што вісеў над балотам. Разбіраў яго адзін толькі лес, і лесу адкрываў Меншы Брат свае думкі, бо людзі смяяліся з яго слоў і песень. А з лесам жылося весялей: лес не давіў яго, не гнаў, як гналі і давілі яго людзі. I Меншы Брат зрабіўся ціхі, спакойны, асцярожны і нікому не адкрываў свае думкі. Меншы Брат адзічэў. Лес і балоты адгарадзілі яго ад божага свету.

Прайшло многа часу.

Усе тры браты сустрэліся. Старшы Брат пазіраў смела. Ён быў у ботах, у крамных портках і кашулі, а паверх кашулі — камізэлька. Гаварыў Старшы Брат скора, мова яго была адменна і Меншы Брат ледзьве мог разбіраць яго. На Сярэднім Браце была высокая шапка, шырокія белыя порткі, боты. У зубах — круглая люлька на кароткім цыбуку; гаварыў ён мала.

Меншы Брат выглядаў старэйшы за іх абодвух. Барада яго была сівая, рукі дрыжалі. Сам ён быў тонкі, худы. Яму як бы брыдка было перад братамі, што на ім сівая рваная світка, круглая шапка-кучомка; на нагах лапці, а каравыя анучы абвівалі худыя ногі.

Гаварылі браты аб усім: а горкай сваёй долі, а праўдзе, а жыцці.

Меншы Брат маўчаў, яму не давалі гаварыць тэй мовай, каторай гаварыў ён сам з сабой, з сваімі думкамі, з лесам. З яго мовы смяяліся старшыя браты.

— Гавары ты так, як гавару я, — кажа Старшы Брат, — і не страхай ты мову людскую. Твая мова — нямая мова. Што сказаў ты свету на сваёй мове? Дзе песні твае? Хто чытаў твае думкі, работу твайго розуму і сэрца? Дзе песняры твае? Чым ты пахвалішся?

— Лепшай мовы я не чуў. Гавару, як знаю. Брат! хто доўга маўчаў, таму хочацца многа гаварыць. А я маўчаў усё жыццё і мне хочацца гаварыць: не адбірай ты ад мяне хоць гэтага права. Спытайся ў хваёвых крыжоў. Яны табе скажуць пра мае думкі. Мае думкі напісаны слязамі, а слёзы разам з думкамі радзіліся ў рэчцы. Вецер — пясняр мой. Гора і боль радзілі мае песні і слухаў іх лес. Спытайся ў леса — ён скажа пра песні мае.

Скажу табе казку. Пасадзіў пан дудара ў глыбокім склепе за каменныя сцены. Кажа яму пан: «Грай мне на дудцы, каб я чуў твае песні і тагды я пазволю табе спяваць людзям песні, дарую права расказаць свету пра думкі твае.

Праз каменныя сцены не выбілася песня дудара, і ніхто яго не пачуў. — «Ты павінен маўчаць! — кажа пан дудару, — бо песня твая нічога не сказала майму сэрцу. Няхай астаюцца ў табе твае думкі і песні». I дудара з таго часу слухала пустое поле, балота і лес.

Брат! усе мы шукалі шчасця, толькі ішлі мы не аднакімі дарогамі. Табе хоць трохі свяціла сонца, а я ішоў у ночы. Запалім жа мы лучыны і пойдзем яшчэ шукаць долі, будзем памагаць адзін аднаму, а як заблудзіць хто з нас, падамо яму голас. Не смейцеся ж, браты, і не адбірайце ў мяне таго, што можа адабраць толькі бог!

I слёзы блішчэлі на вачах Меншага Брата.

**Якуб Колас**

1906 г.

1. Якія тры народы падразумявае аўтар пад постаццю трох братоў?
2. Апішы знешні выгляд трох братоў і пастарайся ахарактарызаваць іх побыт.
3. Ахарактарызуй выгляд і жыццё малодшага брата-беларуса.
4. Аб чым ідзе гутарка паміж братамі?
5. Што абараняе малодшы брат і да чаго заклікае братоў старэйшых?
6. Звярні ўвагу на час, у якім паўстаў твор.

### ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

Благая тая птушка, што свайго гнязда не пільнуе.

Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка.

Хто ў школе з матчынай гаворкі пасмяецца, той на старасць ад маткі адрачэцца.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## У Канюках

У Канюках у апошніх гадах вельмі распажарылася. Так, напрыклад, 9.IX. 1961 г. успыхнуў ноччу пажар у грам. Уладзіміра Іванюка. Згарэў дом з хлявамі. 8.VIII.1962 г. пажар уначы спаліў 12 клуняў з сабраным збожжам і сенам. А 12.IX. 1964 г. згарэла 7 клуняў са збожжам і сенам. Ва ўсіх трох выпадках прычыны пажару не ўяўлены.

Бачачы пагрозы пажару, жыхары вёскі пастанавілі сарганізаваць добраахвотніцкую пажарную каманду. Дзеля гэтага 12.IX.1965 г. на агульным сходзе жыхараў вёскі была ўтворана пажарная каманда, у склад якой увайшло 17 асоб. Камендантам быў выбраны Уладзімір Наумюк. На механічны курс паехаў Яўген Гукоўскі. У чэрвені атрымалі пажарнікі прылады.

Але вось тут паўстала новая праблема. Няма дзе схаваць гэтыя прылады. Няма дзе таксама праводзіць заняткаў. На чарговым сходзе пастанавілі пабудаваць рамізу. Забавязаліся пажарнікі даць па адным мяшку цэменту і супольна з жыхарамі вёскі навазіць жвіру і зрабіць пустакі, а потым звярнуцца да ГРН у Рыбалах, каб дапамог ён грашыма (5 тысяч зл).

У чэрвені і ліпені пажарнікі ў святочныя дні вазілі жвір, мяшалі цэмент і рабілі пустакі. Зрабілі іх 270 штук. Але з грамадскай рады нарадовай у Рыбалах да гэтага часу не чуваць дапамогі.

**М. Матвеюк**
Канюкі

## «Аглядзіўся Гаўрыла...»

ГС у Крынках пабудаваў сучасную пякарню. І хлебам і булкамі поўнасцю абяспечвае яна свой тэрэн, г. зн. 6 грамадскіх рад нарадовых. Перад пачаткам будовы пякарні прыязджалі інвестатары і архітэктары, каб выбраць добрае месца на яе пабудову. Калі скончылі будову і аддалі пякарню ў карыстанне прыехала санітарна-эпідэміялагічная камісія і сцвердзіла, што вада пры пякарні не надаецца да выпеку. Ну, што ж зробіш, ГС вымушаны быў праводзіць ваду з масарні і гэтым самым пабольшыліся дадатковыя кошты. Чаму ж такія справы не ўладжваюцца перад будовай, чаму ж такое безгалоўе?!

**Л. С.**
Крынкі




Дарагое Сэрцайка!

Ужо мінула два гады, як я пасябраваў з Марысяй, якая жыве ў нашай вёсцы. Яна працуе ў малачарні. Абое мы пры сустрэчах гаварылі, што кахаем адзін другога. І я ў гэтым быў пераканаНЫ. Часта нават марылі аб нашай супольнай будучыні. А цяпер мне сорамна перад Марысяй, яна здагадваецца, што штосьці сталася, аднак я баюся аб гэтым і думаць. На пачатку ліпеня я паехаў на фэст да свайго дзядзькі аж за 12 кіламетраў. У дзядзькі было многа гасцей, а між іншым, была адна дзяўчына, сяброўка дзядзькавай дачкі. Вельмі прыгожая дзяўчына. Калі мы пайшлі ўсе на забаву, я ўвесь час гуляў з Аняй (так яна называецца). Ад'язджаючы, думаў, што буду вельмі сумаваць за Марысяй і абяцаў сабе, што ўвогуле не пайду на забаву, а на вечар вярнуся дамоў. Але будучы на забаве ўвогуле забыў пра Марысю, а калі і прыпомніў, стараўся не думаць пра яе. Я таксама спадабаўся Ані, бо яна была вельмі задаволена, вясёлая. Я нават адважыўся цалаваць Аню. Штораз яна больш мне падабалася. На другі дзень, ад'язджаючы, Аня запрасіла мяне, каб я прыехаў у нядзелю да яе бацькоў. Я абяцаў. Быў ужо ў Ані тры разы. Бацькам яе вельмі спадабаўся, а апошнім разам Аня сказала мне, што пакахала мяне. Я таксама прызнаўся ёй у каханні. Пры сустрэчы з Марысяй змяніўся, думаю ўсё пра Аню. Гэта сапраўднае каханне. Марыся адчула маю перамену да яе і ўсё дапытваецца. Што рабіць? Мае ўдаванне штораз больш стаецца падазроным.

**Вася**
з Бельшчыны

Вася! Ой, хіба гэта не апошняе і не сапраўднае яшчэ каханне. Нядаўна таксама табе здавалася і з Марысяй, якой таксама прызнаўся ў каханні і многа чаго абяцаў. А цяпер таксама паступаеш з Аняй. Не вядома, ці гэта табе так хутка не пяройдзе, як раптоўна прыйшло. Пастарайся якісьці час не гаварыць аб гэтым Марысі. Мо за нядоўгі час пераканаешся, што гэта памылка. А калі, аднак, не здолееш забыць Ані, калі надалей будзеш утрымоўваць з Аняй сувязь, калі штораз больш будзеш кахаць Аню, будзь адважным і пры сустрэчы з Марысяй прызнайся да гэтага. Не можна крыўдзіць Марысі. якая цябе кахае і табе верыць. Лепш горкая праўда, чым салодкая няпраўда.

**Сэрцайка**

**ўсходнюю Прусію адпаведнага чалавека, які дасканала ведаў бы нямецкую мову і панаючыя ў вермахце парадкі, з заданнем наладзіць сувязь з чалавекам па мянушцы «Петэрс».**

**Забяспечаны дакументамі афіцэра-адпускніка вафен — СС, дастаўленымі «Жыльберам», сувязны Дзюпона павінен быў спаткацца з «Петэрсам» ва ўмоўленым пункце на вуліцы Гіндэнбурга ў невялікім гарадку Растэнбург ва Усходняй Прусіі, каб забраць надзвычай каштоўныя матэрыялы стратэгічнага значэння. Праўда, у «Петэрса» была дастаўленая людзьмі «Жыльбера» спецыяльная радыёапаратура з вельмі вялікім радыусам дзеяння, але карыстацца ёй для перадачы звестак было сурова забаронена, каб пазбегнуць выкрыцця. Рацыя служыла толькі для перадачы «Жыльберу» спецыяльнага сігнала, які азначаў, што ў «Петэрса» ёсць важная інфармацыя і за ёй неабходна прысылаць сувязнога. Сувязнымі былі заўсёды найбольш давераныя людзі «Жыльбера» або «Кента» — афіцэры савецкай разведкі, прычым сустрэчы адбываліся ў доме з двума адпаведна абсталяванымі выхадамі, што давала магчымасць хутка знікаць, не звяртаючы на сябе нічыёй увагі.**

**Было ўжо вельмі позна, калі Дзюпон пакінуў дом у прадмесці Пасі. Па небе слізгалі промні пражэктараў. Недзе далёка грукалі зенітныя гарматы. З поўначы даносіўся гул авіяцыйных матораў.**

**(Працяг будзе)**

## Нарады настаўнікаў

У сувязі з новым школьным годам, першым у зрэфармаванай школе, Беластоцкая куратория правяла нарады для кіраўнікоў пачатковых васьмікласных школ, дырэктараў і настаўнікаў агульнаадукацыйных ліцэяў, тэхнікумаў, засадніцых прафесіянальных школ і педагагічных ліцэяў Беластоцкай акругі. У нарадах прыняло ўдзел 3100 асоб.

Цікавым падаем, што ўся армія настаўнікаў Беласточчыны налічвае 11 тысяч асоб.

(вл)

## ГРН і школа

Працаўнікі грамадскіх рад у месяцы ліпені і жніўні мелі шмат работы з рамонтамі школ. Грамадская рада нарадовая ў Пасынках (Бельскі павет) апякуецца шасцю школамі. Школы ў Кожыне, Локніцы і Піліпках не патрабавалі вялікіх рамонтаў і новых памяшканняў для восьмага класа. Для апошніх трох школ памяшканні для восьмага класа неабходна было знайсці Старшыня ГРН М. Весялоўскі, а таксама сакратар А. Кавальчук многа страцілі часу на пошукі прыватных кватэр для восьмага класа. ГРН сарганізаваў пасяджэнне кіраўнікоў школ з удзелам прадстаўніка аддзела асветы ў Бельску Міколам Якубюком, на якім абмеркаваліся справы падрыхтоўкі школьных будынкаў, забеспячэння школ у неабходныя прылады і памяшканні для настаўнікаў.

21 жніўня адбылася сесія ГРН, дзе адным з важнейшых пунктаў была справа падрыхтоўкі школ да новага навучальнага года. Дзякуючы належнай апецы ГРН, школы 1 верасень сустрэлі поўнасцю падрыхтаваныя.

**К.С.**
Катлы



## ПЛЁННАЯ ЭКСКУРСІЯ

На Гайнаўшчыне існуе 55 калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, якія налічваюць 580 чалавек. Вучоба працягваецца тры гады. Удзельнікі апрача тэарэтычных заняткаў у асенне-зімовы перыяд вядуць вясною і летам доследы на сваіх палетках.

На другім і трэцім годзе апрача доследаў прымаюць удзел у гадаўляных конкурсах. У гэтым годзе ўдзельнікі конкурсу купілі на гадоўлю 70 пародзістых парасят. 50 асоб прыступіла да конкурсу гадоўлі цялят.

Да найлепш працуючых калектываў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі адносяцца калектывы ў вёсках: Ласінка, Лука, Койлы, Кленікі, Старое Ляўкова, Вялікія Грыневічы і Курашава.

*

Згодна з праграмай заняткаў у канцы ліпеня для ўдзельнікаў сельскагаспадарчай падрыхтоўкі была арганізавана экскурсія. Траса яе вяла праз Беласток у даследчае прадпрыемства ў Бебжы. Удзельнікі экскурсіі пазнаёміліся там са спосабам угнаення і доглядам сенажацяў і паш на тарфяных угоддзях зямлі.

У Кэнтшыне наведалі яны стадніну коней і падземную сядзібу Гітлера ў Герложу, а пасля пабывалі ў сельскагаспадарчым прадпрыемстве ў Старым Полі і ў замку крыжаносцаў у Мальбаргу.

Пазнаёміўшыся з Гдыняй, суднамі прыплылі ў Сапот і назад. Пабывалі ў прыгожым парку ў Аліве, паслухалі канцэрт выкананы на слаўных арганах. Далейшая траса экскурсіі вяла ў Варшаву, дзе з вялікім зацікаўленнем пабывалі экскурсанты ў фабрыцы трактараў «Урсус», у музеі Войска Польскага і заалагічным парку. Удзельнікі экскурсіі вельмі ўдзячны кіраўніцтву Павятовага праўлення сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы і асабіста Віталісу Назаруку за добрую арганізацыю экскурсіі.

**Мікола Пракапюк**
Гайнаўка



**Ірэна Матуевіч сярод вучняў.**

## ІРЭНА МАТУЕВІЧ

Ірэна Матуевіч вучыць дзяцей у Масеве ўжо чацвёрты год. Дзеці вельмі паважаюць сваю настаўніцу. Найбольш любяць яе першакласнікі, якія называюць яе «другой мамай». Ірэна добры актывіст БГКТ і ЗМВ. Пры яе дапамозе арганізаваўся масеўскі драмгурток.

**Верас**
Масева




Ваяводская Камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер — у Беластоку і Бельску, у сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны ў злотых.

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | — | 300 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 450 | 450 | 360 |
| масла | кг | 60 | 55 | 55 |
| ялавічына | кг | — | — | — |
| свініна | кг | 36 | 38 | 36 |
| сала | кг | 33 | 35 | 34 |
| бульба | кг | 1,20 | 0,80 | 1,05 |
| цыбуля | кг | 4 | 5 | 4 |
| капуста | кг | 1,50 | 1,50 | 1 |
| морква | кг | 2,50 | 3 | 2 |
| буракі | кг | 2,50 | 3 | 2 |

# КІНО

**Праграма**
**на 13—18.IX.1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Oddajcie mi dziecko" (NRD), 13—14. „Dotknięcie nocy" (polski), 15—16. „Dzwonić Northside 777" (USA), 17—18.

**Кляшчэлі**
„Król strzelców" (czeski), 13—14. „Rozstanie" (polski), 15—16. „20 godzin" (węgierski), 17—18.

**Дубіны**
„Gorąca linia" (polski), „Jo-jo" (franc.), 17—18.

**Нарва**
„Małpia kuracja" (USA), „Skrawek ziemi ojczystej" (radziecki), 14—18.

**Нараўка**
„Olbrzym" (USA), „Kosmos wzywa" (radz.), 7—11.

**Чыжы**
„Inspektor i noc" (bułg.), 14—18.

**Дубічы Царкоўныя**
„Jest taki chłopak" (radz.), „Koniec naszego świata" (polski), 14—18.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Umrzeć w Madrycie" (francuski), „Kuba w ogniu" (kubański), 14—18.

**Райск**
„Ojciec żołnierza" (radz.), „Kalosze szczęścia" (polski), 14—18.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Pojedynek" (radz.), 13—14, „Dziewczyna kłamie" (jugosłowiański), 15—16.

**Міхалова**
„Światła w oknach" (radz.), 13—14. „Hasło bez odzewu" (bułg.), 15—16. „Nikt śmiać się nie będzie" (czeski), 17—18.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Najdroższa" (radz.), „Szerszeń" (radz.), 14—18.

**Мілейчыцы**
„Niewysłany list" (radz.), 13—14. „Ucieczka z Paryża" (francuski), 15—16. „Nieznany" (polski), 17—18.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Dzielnica szczęścia" (rumuński), 13—14. „Panie inspektorze" (jugosł.), 15—16. „Żona dla Australijczyka" (polski), 17—18.

**Шудзялава**
„Droga przez cmentarz" (radziecki), „Ulica Graniczna" (polski), 14—18.

**Сідра**
„Alba regia" (węgierski), 13—14. „Cisza! Na sali operacja" 15—16. „Sposób bycia" (polski), 17—18.

**Сухаволя**
„Zabawy w muzeum" (węgierski), „Bandyci z Orgosolo" (włoski), 14—18.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Człowiek z przeszłością" (radziecki), „Niewidomy muzyk" (radz.), 17—18.

**Ліпск**
„Człowiek, który zabił Liberty Valancea" (USA), 17—18.

### ТЭАТР ім. Вянгеркі
(выязная група)

**Бранск**
„Drugi strzał" — 14.IX.

**Гайнаўка**
„Drugi strzał" — 16.IX.

**НІВА**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł. kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przepłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.

Nakład 5965. Błtk D-3



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024



## ХАМ

Тэлефонны званок. Падымаю трубку:

— Так! Слухаю.
— Хто?
— А вы куды звоніце?
— Я пы-та-ю: хто?!
— А я пытаю: куды вы звоніце?
— Куды я званю — я ведаю!
— Ведаеце?
— Ты што, здзекуешся?.. Выганю!
— Адкуль, дазвольце даведацца?
— Як адкуль? З маёй канторы!
— А каго менавіта?
— Гм!.. Гэта ты, Іванюк?
— Не.
— Пятручук?
— Таксама не.
— Не прыдурнівайся!.. Гэта Семянюк?
— І не Семянюк.
— Тады, значыць, Міхалюк?
— Значыць, і не Міхалюк.
— Ну дык чорт з табою! Усё роўна выганю! Зараз прыду і каб... духу твайго не было!
— А я вас не запрашаў да сябе.
— Ну, ведаеш, ты ж і нахабнік, браток!
— Хто менавіта?
— Ты! Менавіта ты!.. Сідарук!
— Не.
— Рыгарук?
— Таксама не.
— Андраюк!
— Не адгадаеце ўсё роўна. Маё прозвішча Дзянісюк.
— Дзя-ні-сюк? Гэта які-такі яшчэ Дзянісюк?
— Такі, які ёсць.
— А што ты там... што вы там робіце?
— Абедаю.
— Як гэта а-бе-даю?! На працы абедаеш?
— Не, у хаце.
— У хаце? А гаворыш з канторы!
— Не. Са сваёй кватэры.
— Ты мяне не страшы! Пры чым тут твая кватэра? Я званю ў сваю кантору!
— А я гавару са сваёй кватэры.
— Дык тэлефон-та мой?!
— Значыць, нумарам памыліліся.
— Гэта я па-мы-ляюся?! Кеміш хоць?!
— А ўсё-такі які нумар?
— Які-які!... Мой! Тры тройкі, дзве двойкі.
— А мой: тры двойкі, дзве тройкі!
— Цьфу ты, якая нахабнасць. Лезе сваёй кватэрай у маю кантору! А ну, палажы трубку! Хам!..

М. Палатай

### КОЛЬКІ ПРАЦУЕ

Новы дырэктар прадпрыемства абыходзіць службовыя памяшканні.

— Скажыце, калі ласка, — пытае ён свайго намесніка, — колькі людзей працуе ў прадпрыемстве?

— Я думаю, працэнтаў пяцьдзесят.

### НА ЯГО ДУМКУ

— Як вы лічыце, Міхась, развіццё аўтамабільнай прамысловасці ў нас вядзе да палепшання ці ўпадку маралі?

— Безумоўна, да палепшання. Напрыклад, рэзка паменшылася канакрадства.

### ВОСЬ ДЫК ЕСЦЬ

— Мой унучак зусім мала есць: спякла я яму дзевяць скварак, дык ён дзесяць з'еў а пятнаццаць пакінуў.

### ГРОШЫ ЗБІРАЮЦЬ

— Цёця, а ў вас няма дзяцей?
— Няма, дзіцятка.
— А чаму?
— Бо яшчэ не купілі.
— То вы, мусіць, на халадзільнік грошы збіраеце?



**Датчанка Тора Андэрсен з 76 год свайго жыцця пяцьдзесят шэсць пражыла ў ЗША. Нядаўна яна вярнулася на радзіму. І тут ёй «пашанцавала»: купіўшы латарэйны білет, яна ў першыя ж дні выйграла... падарожжа ў Злучаныя Штаты.**



**Кожны бацька хацеў бы, каб яго сын быў такі, якім некалі павінен быў стаць ён сам.**



— Вялікае дзякуй, дзядзю!
— Які ветлівы хлопчык! Вось выхаванне!

— Цёшча ад'язджае

Памірыліся

### З НОГ ДА ГАЛАВЫ

— Ведаеш, Маруся, мяне муж апрануў з ног да галавы за адну сваю палучку.
— А што ён табе купіў?
— Панчохі капронавыя і грэбень.

### НЕ КОЖНАМУ ДАДЗЕНА

Гуляе Качка ля ракі і крача сумнавата,
А Жаба ўсё сваё чаўпе, усё Качцы спачувае:
— Ты не сумуй. Дальбог, выходзіць ніштавата.
Бо квакаць жа не кожны талент мае.

Х. Зія

### КАНЬЯК УПЛЫВАЕ НА ЗРОК

*Гутараць двое. Адзін у зялёным капелюшы, другі ў сінім берэце.*

*— Ніколі не пі, Сцяпан, самагонкі, — гаворыць зялёны капялюш. — Гадасць, якой яшчэ свет не бачыў. Страшэнна на ныркі ўплывае.*

*— Ды што ты, Іван! — здзіўляецца сіні берэт. — Я ўсё сваё свядомае жыццё п'ю толькі самагонку, і, як бачыш, чорт мяне не ўзяў.*

*— А я гэтай гадасці ў рот не бяру, — гаворыць зялёны капялюш.*

*— Што ж ты п'еш? — цікавіцца сіні берэт.*

*— П'ю толькі «Марціні», — адказвае зялёны капялюш.*

*— А я на каньяк глядзець не магу, — заяўляе сіні берэт.— Каньяк страшэнна ўплывае на зрок.*

*— Хто гэта табе наплёў такія глупствы? — абураецца зялёны капялюш.*

*— Па сабе ведаю, — гаворыць сіні берэт. — Як толькі на цану гляну, у мяне адразу ў вачах цямнее.*

### ЯКІ ЁН

*Ён заўсёды хваліцца:*

*— У сваім жыцці я не зрабіў людзям нічога дрэннага.*

*І ні разу не сказаў, што ж ён зрабіў людзям добрага.*

### ПРАВІЛЫ ДОБРАГА ТОНУ

*Ён так строга прытрымліваўся правілаў добрага тону, што нават у сябе дома купаўся ў ванне толькі ў трусах.*



**Без шмат чаго можа абысціся чалавек, толькі не без чалавека.**

Л. Берне (1786—1837) — нямецкі пісьменнік.



УСЁ ЛЮДСКОЕ НАМ НЕ ЧУЖОЕ.

## БЯРОЗКА

*Словы Петруся Броўкі*

*Музыка Уладзіміра Чараднічэнкі*



*Ой, не шапчы, мая бярозка,*
*Журлівым шопатам галінаў,*
*Пайду сягоння ў поле позна — (2 разы)*
*Сустрэну любую дзяўчыну.*

*Сустрэну ў полі, дзе бярозкі,*
*У вечар росны, вечар мглісты,*
*І будуць пець зялёным лісцем (2 разы)*
*У полі белыя бярозкі.*

*Чуць свет, чуць сонейка устане,*
*Пайду з касой на луг*
*мурожны —*
*Трава квяцістая, густая (2 разы)*
*Будзе губляць сваю*
*прыгожасць.*

*Дык не шапчы, мая бярозка, —*
*У ліпнёвы вечар мне не сумна.*
*Вітаю свету новы росквіт (2 разы)*
*І Беларусь, маю красуню.*

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024